**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 22 (790) 28 траўня 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
# Вольнае Глыбокае
vglybokaye@tut.by






**22 траўня ў Глыбоцкім гарадскім цэнтры культуры адбыўся справаздачны выпускны канцэрт Глыбоцкай дзіцячай школы мастацтваў. У залі – поўны аншлаг.**
*Фота Ул. Скрабатуна.*



Падача абвестак па тэлефоне № 166



## Колькасць тых, хто працуе ў рэжыме вымушанай няпоўнай занятасці, вырасла за год у 5,5 раза

У сакавіку 2015 года ў Беларусі ў рэжыме вымушанай няпоўнай занятасці працавалі 73.714 чалавек. Гэта ў 5,5 раза больш, чым год таму, у сакавіку 2014-га. Статыстыка не ўлічвае мікраарганізацыі і малыя арганізацыі без ведамаснай падпарадкаванасці, зазначае Белстат.

Колькасць работнікаў, якім былі дадзеныя водпускі па ініцыятыве наймальніка, узрасла за гэты перыяд у 2,8 раза і на 1 красавіка гэтага года склала 42.114 чалавек.

У сакавіку ў цэладзёным (цэлазменным) прастоі знаходзіліся 95.469 чалавек, што на 21,2% больш, чым у лютым.

***Марына Носава, БелаПАН.***



ISSN 2077-8023


### Полацкі раён

## Ні эфектыўнасці, ні заробкаў

■ Чэслаў Якубовіч.

**Яшчэ не было ў айчыннай гісторыі такога, каб ужо працяглы час пагаршалася абстаноўка на прамысловых прадпрыемствах і ў сельскай гаспадарцы.**

Калі аграрыі вобласці ў пачатку мая завяршалі сяўбу зерневых і зернебабовых, то 188 арганізацый Віцебшчыны зноў займелі пратэрмінаваную запазычанасць па зарплаце. У параўнанні з папярэднім месяцам іх колькасць, праўда, зменшылася, але толькі на 7 суб'ектаў гаспадарання. У гэту сумную статыстыку патрапіў і буйны Полацкі раён, дзе нават у адным з самых багатых гарадоў краіны Наваполацку рэальныя заробкі гараджан зменшыліся яшчэ на 10 % сёлета. Як і ў суседзяў, на Полаччыне найбольш праблем з аплатай працы ў сферы АПК і ў будаўнічай галіне. Хоць кіраўнікі ведаюць, што за даўгі людзям іх па галоўцы не пагладзяць, але нічога змяніць не могуць. Перад майскімі святамі ў раёне дапусцілі парушэнне тэрмінаў выплат ужо 12 калектываў, сярод якіх былыя саўгасы "Зялёнка", "Захарнічы", эксперыментальная база "Ветрынская", мясцовы аграсервіс. І іншыя гаспадаркі краю трапілі ў гэты сумны спіс з даўгамі на мільярды рублёў не ў першы раз. Трывожна, што да праблемных прадпрыемстваў з даўгамі па зарплаце дадаўся ў мінулым паспяховы завод "Тэхналіт Полацк" са сваім філіялам "Прамашрамонт". Як і ў іншых мясцінах, на мяжы выжывання апынулася прадпрыемства меліярацыйных сістэм. Дарэчы, становішча з даўгамі па зарплаце зараз на Віцебшчыне найгоршае сярод іншых абласцей краіны і сталіцы.

### Мёрскі раён

## Завод узвядуць еўрапейцы

■ Станіслаў Раманчук.

**Нягледзячы на крызісныя з'явы ў эканоміцы, патрабуецца зараз і на месцах не апускаць рукі, думаць пра дзень заўтрашні.**

Для маладых жыхароў пераважна сельскагаспадарчага Мёрскага раёна неўзабаве могуць і на радзіме адкрыцца новыя жыццёвыя перспектывы пасля пабудовы тут сучаснага металапракатнага завода. На гэтым прадпрыемстве ўжо праз чатыры гады змогуць працаваць каля паўтысячы чалавек, а прафесія металурга стане адной з вядучых у краі. Паблізу райцэнтра сёлета вясной завяршыліся падрыхтоўчыя работы на месцы гэтай будоўлі, а адна з літоўскіх кампаній напрыканцы мая павінна завяршыць працу па стварэнні неабходнай праектнай дакументацыі для прадпрыемства, разлічанага на выпуск да 150 тысяч тон белай бляхі ў год. Як і раней у БССР, калі ажыццявіўся буйны праект па пабудове металургічнага завода-гіганта ў Жлобіне, зноў інвестарам сталі аўстрыйцы. Іх кампанія "MMPZ-GmbH" заключыла неабходны дагавор з Віцебскім аблвыканкамам на пабудову завода паблізу ад райцэнтра і гатова выдзеліць на гэтыя мэты 200 млн. еўра інвестыцый з улікам закупу неабходнага тэхналагічнага абсталявання. Таксама сёлета напрыканцы вясны прайшлі неабходныя экспертызы праектаў пабудовы неабходнай для завода інфраструктуры, уключаючы яго газазабеспячэнне. Якая з кампаній з Чэхіі, Славакіі альбо Славеніі атрымае падрад на пабудову новага завода ў раёне, вызначыцца пасля тэндара. Будаўнічыя работы разлічаны на 2 гады і столькі ж часу потым адводзіцца на мантаж і наладку асноўнага абсталявання.

### Пастаўскі раён

## Узнагароды смелым хлопцам

■ Кастусь Александровіч

**У некаторых крытычных сітуацыях неабходна людзям дзейнічаць рашуча і мужна, асабліва калі ўзнікла пагроза жыццю іншаму чалавеку.**

Падобным чынам сёлета ў адзін з веснавых дзён праявілі сябе ў вёсцы Камышы Пастаўскага раёна, што паблізу ад райцэнтра, двое мясцовых жыхароў. У другой палове дня яны заўважылі спачатку чорны дым і падумалі, што нехта з вяскоўцаў заняўся падпалам сухой травы. Праз некаторае імгненне галоўны аграном сельгаспрадпрыемства "Сцяг Перамогі" Ігар Турон і слесар-сантэхнік райкамунгаса Сяргей Галубоўскі зразумелі, што загарэлася адна з хат, у якой пражывае 50-гадовы стары халасцяк. З памяшкання валіў густы дым, але смелыя людзі кінуліся туды, з дапамогай падсветкі мабільнага тэлефона ўбачылі ляжачага на падлозе беспрытомнага гаспадара. Яны паспелі выцягнуць пацярпелага на свежае паветра, хоць і самі наглыталіся прадуктаў гарэння, выклікалі пажарных і брыгаду "хуткай дапамогі". Пра гэты ўчынак даведаўся міністр па надзвычайных сітуацыях Беларусі генерал-маёр У. Вашчанка і загадаў узнагародзіць мужных людзей. Гэта даручэнне выканаў днямі начальнік абласнога ўпраўлення МНС палкоўнік В. Чэкан і ў Доме культуры аграгарадка Юнькі ўручыў абодвум грашовыя прэміі ў памеры па 2 млн. рублёў кожнаму. Акрамя ўрачыстай цырымоніі для жыхароў сельсавета правялі Дзень прафілактыкі з праглядам двух відэафільмаў на супрацьпажарную тэматыку, бо толькі летась на Пастаўшчыне агонь забраў жыцці яшчэ пяці жыхароў. Дарэчы, у райцэнтры сёлета ўручылі яшчэ ўзнагароды за мужнасць двум вадзіцелям, якія выратавалі жыццё цэлай сям'і, калі іх машына зляцела ў кювет, перакулілася і патрапіла ў вадаём зімой каля дарогі.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 28.05.15 | | | | Пятніца 29.05.15 | | | | Субота 30.05.15 | | | | Нядзеля 31.05.15 | | | | Пан. 01.06. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +11 | +9 | +15 | +14 | +10 | +13 | +18 | +15 | +10 | +13 | +18 | +16 | +11 | +15 | +11 | +12 | +9 | +12 | +18 |
| Ціск | 740 | 742 | 743 | 744 | 744 | 745 | 745 | 745 | 745 | 745 | 744 | 745 | 744 | 743 | 744 | 747 | 749 | 750 | 749 |
| Вільготнасць | 84 | 95 | 61 | 67 | 79 | 77 | 46 | 61 | 82 | 80 | 50 | 70 | 79 | 75 | 81 | 60 | 76 | 72 | 41 |
| Вецер м/сек | 5 | 4 | 3 | 2 | 2 | 1 | 3 | 4 | 3 | 3 | 1 | 2 | 2 | 3 | 10 | 4 | 4 | 3 | 6 |
| | Пн-З | Пн-З | Пн | Пн-З | Пн-З | Пн | Пн-З | Пн-З | Пн | Пн | З | З | Пд | Пд | З | З | Пд-З | Пд-З | Пд-З |

# Аб самым надзённым

## СТАРЫ ЛОЗУНГ "ЗАПУСЦІЦЬ ЗАВОДЫ" ЗНОЎ СТАНОВІЦЦА Ў БЕЛАРУСІ НАДЗВЫЧАЙ АКТУАЛЬНЫМ




■ Аляксандр Цішкевіч.

**Праўда, цяпер ужо не будзе ў нас звар'яцелай шалёнай інфляцыі, бо цэнам, часта вышэйшым за сусветныя, проста няма куды болей расці на фоне заробкаў беларусаў, адных з самых нізкіх у Еўропе**

Тэмпы цяперашняга жыцця настолькі хуткаплынныя, што і не заўважылі мы, як пражылі фактычна ўжо амаль першую палову года і не толькі. Вось і 20 гадоў мінула з часу правядзення ў нашай краіне першага з серыі прайшоўшых потым рэферэндумаў. На ім тагачасная Беларусь, калі дэталёва разабрацца, абірала не абноўленую крыху ранейшую савецкую сімволіку і не надавала статус дзяржаўнай рускай мове, каб разлічваць на эканамічныя бонусы з боку суседняй Расіі. Фактычна тады, скажам шчыра, многія беларусы добра не разабраліся, што яны робяць у маі 1995 года сваім галасаваннем па вынесеных пытаннях.

Гэта ж – поўны нонсенс, каб нацыя адмовілася ад сваіх спрадвечных, гістарычных і нацыянальных сімвалаў, бел-чырвона-белага флага і герба "Пагоня", а палічыла іх "часовымі і нібыта небеларускімі". Большасць суайчыннікаў, да якіх я сябе не адношу, не ад роднай мовы два дзесяцігоддзі назад адракліся, а рэальна прагаласавалі за тое, каб Беларусь свядома засталася ў савецкім мінулым і пазбавілася свайго пачэснага месца ў аб'яднанай Еўропе, куды і нас запрашалі і куды вярнуліся нашы суседзі з Прыбалтыкі, куды імкнуцца трапіць цяпер украінцы, малдаване і грузіны. Беларусы выбралі тады для сябе фактычна таптанне на месцы, не пажадалі нічога мяняць ад збанкрутаванай сістэмы калгаснага ладу на зямлі да грувасцкай, так і не мадэрнізаванай па добрым рахунку эканомікі, за што цяпер пачынаем расплачвацца падзеннем узроўню жыцця і крызісам.

Не ад добрага жыцця на вышэйшым узроўні прайшла ў Мінску чарговая нарада па складанай сітуацыі на рынку працы. Беларускі кіраўнік публічна запатрабаваў ад урада і кіраўнікоў прадпрыемстваў любой цаной захаваць працоўныя калектывы і не пакінуць многіх людзей на вуліцы. Аднак рост беспрацоўя – гэта ўжо непазбежная рэальнасць і сярод беларусаў, бо ў суседняй Расіі афіцыйна ўжо 6 % насельніцтва не мае працы, а ў Еўрасаюзе ў цэлым яго на біржах працы крыху больш 10 %. Закрываць многія праблемныя заводы і фабрыкі і мы вымушаны будзем, альбо іх перапрафіляваць, бо ў глыбінцы ды і ў сталіцы зноў наступілі для вытворцаў цяжкія часы, прадукцыя слаба прадаецца, заказаў менее і таму заробкі ў людзей упалі і сталі затрымліваца, працоўных усё часцей адпраўляюць у вымушаныя водпускі, на няпоўны працоўны тыдзень.

Адначасова кіраўніка дзяржавы стала падводзіць апошнім часам яго бездакорная раней інтуіцыя. А. Лукашэнка пры наведванні МТЗ міжволі абразіў беларускую хакейную зборную і назваў яе годнае выступленне на чэмпіянаце свету ў Чэхіі "позорищем". Аднак спецыялісты ведаюць, што так упэўнена і прыгожа зборная каманда Беларусі пад кіраўніцтвам канадскага трэнера Д. Льюіса ды яшчэ не ў самым моцным, аслабленым складзе раней не гуляла, заняла пачэснае 7-е месца ў свеце, атрымала дамашнюю алімпійскую кваліфікацыю і 9-ы сусветны рэйтынг. Замест таго, каб падзякаваць камандзе і яе трэнерскаму штабу, узялі і плюнулі ўсім ім у твар, ад чаго доўга яшчэ застанецца ў душы гэты плявок.

У падобным рэчышчы, як падаецца, вытрымана і пачатая кампанія супраць "дармаедаў", якіх падатковыя службы па ўсёй краіне пачынаюць падлічваць, заносіць у спісы патэнцыйных "ворагаў народа". Прэзідэнт наведаў сталічны МТЗ і яшчэ раз усіх папярэдзіў, што ў год выбараў не будзе займацца папулізмам і "гнаць" зарплату, даў каманду стрыножыць рост цэн. Адначасова з яго вуснаў прагучалі катэгарычныя заявы аб забароне купляць імпартныя тавары і парады людзям трымацца за свае працоўныя месцы і не слухаць балбатуноў. Дасведчаныя ж спецыялісты сцвярджаюць, што зараз Беларусь уступіла ў адзін з самых складаных этапаў сваёй навейшай гісторыі і, як у пачатку 90-х гадоў, зноў будзе знаходзіцца на грані выжывання.

Праўда, цяпер ужо не будзе ў нас звар'яцелай шалёнай інфляцыі, бо цэнам, часта вышэйшым за сусветныя, проста няма куды болей расці на фоне заробкаў беларусаў, адных з самых нізкіх у Еўропе. Аднак сёлета ў Беларусі прамысловая вытворчасць ужо знізілася на 7,5 % і ў выніку рэальныя даходы насельніцтва зменшыліся на амаль 5 % пры росце інфляцыі ў студзені-красавіку пад 6 %. Наша нацыянальная валюта пастаянна абясцэньваецца, курс рубля "аслабеў" у сотні разоў, у адрозненне ад суседняга моцнага польскага злотага. Адбываецца такое падзенне з-за таго, што вялізныя праблемы са збытам сваёй прадукцыі цяпер адчуваюць не толькі МТЗ і іншыя волаты айчыннай прамысловасці МАЗ, БелАЗ, "Гомсельмаш", але і больш дробныя калектывы з усіх куткоў краіны.

На жаль, відавочны спад сёлета ў Беларусі закрануў не толькі прамысловасць, але і АПК, іншыя галіны айчыннай эканомікі. На прайшоўшым у Мінску днямі Беларускім прамысловым форуме ўжо і прадстаўнікі нашага Міністэрства прамысловасці прызналі наяўнасць сур'ёзнага крызісу, паколькі асноўным рынкам збыту беларускіх тавараў з'яўляецца сама сур'ёзна прасеўшая Расія. Рэальнасць такая, што калі там на расійскіх прасторах сітуацыя не палепшыцца, то нам і надалей будзе кепска і не ўдасца "запусціць заводы". Для Беларусі выхадам з крызісу стануць новыя канкурэнтныя тавары, з якімі мы змаглі б выйсці на новыя рынкі збыту. Для гэтага спатрэбіцца велізарныя знешнія інвестыцыі, праўда, аднак мы не змаглі асвоіць і адкрытую Кітаем яшчэ летам 2010 года крэдытную лінію ў суме 15 млрд. долараў.

## Дзень за днём

**Беларусь прынялі ў Балонскі працэс, яна далучылася да Еўрапейскай прасторы вышэйшай адукацыі. У шэрагу раёнаў краіны забаранілі наведваць лясы. На 100 родаў беларусак прыпадае ўжо 21 аборт. Магазінам забаранілі выстаўляць цыгарэты на касе і прадаваць алкаголь пасля 22 гадзін. Студэнтам дазволілі па ўважлівых прычынах вяртацца ў інтэрнаты і ноччу. У выніку рэферэндума-1995 больш чым у 2 разы зменшылася колькасць школьнікаў, якія вучацца на беларускай мове. У чацвёрты раз у гісторыі зборная Беларусі згуляла ў ¼ фіналу чэмпіянату свету па хакеі.**

# Важнейшыя навіны свету

**Турцыя.** Генсек НАТО Й. Столтэнберг заявіў, што альянс будзе супрацьстаяць тактыцы гібрыднай вайны, якую Расія прымяняе ва Украіне і актыўна застрашвае сваіх суседзяў.

**Англія.** Зноў паднялі па трывозе брытанскія самалёты-знішчальнікі, калі два рускія стратэгічныя бамбардзіроўшчыкі Ту-95 наблізіліся да паветранай прасторы краіны.

**Германія.** Перамовы канцлера А. Меркель з Пуціным у Маскве былі крайне жорсткімі, раззлаваны лідар РФ прыгразіў нават увесці рэгулярную рускую армію ў Данбас.

**Украіна.** Адзін з паплечнікаў главара “ДНР” Д. Пушылін упершыню заявіў аб згодзе на “вельмі шырокую аўтаномію ў складзе адзінай краіны”, бо Крамлю яны непатрэбныя.

**Расія.** Сябры забітага ля Крамля палітыка Б. Нямцова выдалі яго даклад “Пуцін. Вайна” з сабранымі ім звесткамі пра 220 забітых на вайне ў Данбасе расійскіх салдат і афіцэраў.

**Шатландыя.** Лідар нацыянальнай партыі (SNP) Н. Сцёрджэн заявіў, што шатландцы запатрабуюць зноў рэферэндума аб незалежнасці, калі іх парламенту не пашыраць уладу.

**Украіна.** Пасля заяў дзеячаў “ДНР, ЛНР” і Дзярждумы РФ сакратар СНБА А. Турчынаў заявіў, што на правах аўтаноміі мы гатовы вярнуць у склад Украіны толькі Кубань.

**Карэя.** Па звестках разведкі, міністра абароны КНДР Хен Ен Чхоля расстралялі не за тое, што заснуў на нарадзе ў Кім Чэн Ына, а за няўдалую спробу ваеннага перавароту.

**Расія.** Намеснік міністра фінансаў РФ С. Сторчак паведаміў, што Масква адмовілася ўдзельнічаць у праграме фінансавай дапамогі Украіне, хоць зімой гэта дапускала.

**Ізраіль.** Жыхароў і ўрад краіны засмуціла рашэнне Ватыкана прызнаць Палестыну суверэннай дзяржавай, бо такі крок распальвае напружанасць у рэгіёне.

**Польшча.** Беларуская пісьменніца С. Алексіевіч атрымала ў Варшаве прэстыжную літаратурную прэмію імя Капусцінскага за сваю кнігу “Час сэканд-хэнд” у перакладзе.

**Расія.** Дасціпныя журналісты знайшлі нават расійскі ваенны экіпаж, які прывёз у Данбас расійскі зенітны комплекс “Бук”, якім збілі пасажырскі малайзійскі самалёт над Данецкам.

**Украіна.** Штаб антытэрарыстычнай аперацыі пацвердзіў, што пад Луганскам былі ўзяты ў палон два рускія афіцэры, супрацоўнікі Галоўнага разведвальнага ўпраўлення РФ.

**Латвія.** У двары былога будынка КДБ у цэнтры Рыгі мастакі ўстанавілі статую распятага на чырвоным крыжы прэзідэнта Расіі Пуціна, убіць у яго цвік могуць усе, хто пажадае.

**ЗША.** Ва ўзросце 89 гадоў у Лас-Вегасе ў сваім доме падчас сну памёр сусветна вядомы “кароль блюзу” і гітарыст Бі Бі Кінг, пры жыцці ён выдаў 40 альбомаў і пласцінак.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Беларусь для Кітая ў яго маштабах, як падкрэсліў палітолаг А. Класкоўскі, толькі пясчынка, за іх крэдыты мы вымушаны будзем купляць да 50-70 % іх тавараў і паслуг.

**Калодзішчы.** На мясцовай галоўнай радыётэлевізійнай перадаючай станцыі краіны апошнімі спынілі тэлетрансляцыі ў аналагавым дэцыметровым дыяпазоне хваль.

**Мінск.** Па факце атрымання хабару следчыя арыштавалі галоўнага інжынера завода колавых цягачоў, пад падазрэнне трапілі і шэраг іншых супрацоўнікаў МЗКЦ.

**Гомель.** Першы намеснік міністра прамысловасці Беларусі Г. Свідэрскі прызнаў, што “Гомсельмаш”, як і яго канкурэнт “Растсельмаш”, знаходзяцца ў фазе вострага крызісу.

**Мінск.** Падчас наведвання МТЗ А. Лукашэнка заклікаў грамадзян не слухаць балбатуноў, а трымацца за працоўныя месцы і сваімі рукамі ствараць матэрыяльны дабрабыт.

**Салігорск.** Калі фінансавая сітуацыя ў краіне будзе пагаршацца, як заявіў аналітык Л. Заіка, то пасля візіту главы КНР Беларусь можа прадаць кітайцам нават “Беларуськалій”.

**Мінск.** З “Дажынкамі” і парадамі, як заявіў лідар прафсаюза РЭП Г. Фядыніч, трэба заканчваць, бо ў краіне няма грошай, у малых гарадах няма людзям працы ўвогуле.

**Магілёў.** Следчы камітэт распачаў справу супраць “чорных рыэлтараў”, двух мужчын і жанчыны, якія забілі і закапалі 6 жыхароў вобласці пасля продажу імі сваіх кватэр.

**Рагачоў.** На мясцовым МКК сталі выдаваць рабочым частку зарплаты згушчонкай і іншай прадукцыяй малочнага камбіната, склады яга перапоўнены, згушчонкі 30 мільёнаў бляшанак.

**Бяроза.** Падчас планавых палётаў на борце ваеннага верталёта Мі-8 ВПС Беларусі ўзнікла нештатная сітуацыя і экіпаж вымушаны быў ажыццявіць экстраную пасадку ля горада.

**Брэст.** Раніцай на вуліцы насупраць парку на пешаходным пераездзе ў страшным дарожна-транспартным здарэнні збілі трох пешаходаў, мужчыну і двух жанчын, якія рухаліся на зялёны свет светлафора.

**Мінск.** З-за няўстойлівай сітуацыі на рынку Расіі, як папярэдзіў эканаміст Я. Раманчук, да канца 2015 года курс нацвалюты можа апусціцца да 20 тысяч рублёў за долар.

**Столін.** Каля 10 гадзін вечара трое падлеткаў у Давыд-Гарадку паспрабавалі спаліць дом са шматдзетнай сям’ёй пасля канфлікту аднаго з хуліганаў з сынам пацярпелых.

**Клецк.** Жыхарка раёна цярпела знявагі і пабоі свайго занадта раўнівага 47-гадовага мужа, утойвала ад людзей такія факты, пакуль ён з-за рэўнасці не забіў нажом жанчыну.

**Пінск.** Услед за жорскім збіццём футбольных фанатаў у Баранавічах АМАП збіў таксама заўзятараў футбола і на матчы каманд 2-й лігі пасля забітага гаспадарамі гола.

# Сямейны капітал беларусы змогуць выкарыстоўваць на атрыманне платных медпаслуг



■ БЕЛТА

**Сродкі сямейнага капіталу грамадзяне змогуць выкарыстаць на атрыманне платных медыцынскіх паслуг. Пра гэта гаворыцца ў пастанове №62 Міністэрства аховы здароўя Беларусі «Аб некаторых пытаннях выкарыстання сродкаў сямейнага капіталу на атрыманне паслуг у сферы аховы здароўя» ад 28 красавіка, апублікаваным сёння на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале, паведамляе БЕЛТА.**

«Сродкі сямейнага капіталу могуць быць выкарыстаны ў сферы аховы здароўя ў поўным аб'ёме або па частках на атрыманне платных медыцынскіх паслуг», - сказана ў дакуменце. Гаворка ідзе ў тым ліку пра паслугі, названых у пераліку платных, што атрымліваюцца членамі сям'і пры датэрміновым выкарыстанні сродкаў сямейнага капіталу.

Для выкарыстання сродкаў сямейнага капіталу на атрыманне платных медпаслуг законныя прадстаўнікі могуць звярнуцца ў дзяржустановы аховы здароўя, дзе будуць аказваць адпаведныя паслугі, і прадставіць копію рашэння аб распараджэнні сродкамі сямейнага капіталу, прынятага мясцовым выканаўчым і распарадчым органам, і іншыя дакументы, неабходныя для заключэння дагавора выплатнага аказання паслуг.

Для пералічэння сродкаў сямейнага капіталу на атрыманне платных паслуг у сферы аховы здароўя грамадзяне павінны звярнуцца ў падраздзяленне Беларусбанка па месцы жыхарства або па месцы адкрыцця дэпазітнага рахунку і прад'явіць неабходныя дакументы.

Пастанова Міністэрства аховы здароўя №62 уступае ў сілу пасля яго афіцыйнага апублікавання.

Новы від доўгатэрміновай падтрымкі шматдзетных сем'яў - сямейны капітал (адначасовае прадастаўленне сем'ям безнаяўных грашовых сродкаў у памеры $ 10 тыс. пры нараджэнні, усынаўленні (удачарэнні) трэцяга або наступных дзяцей) уведзены ў Беларусі 1 студзеня 2015 года. Адначасова ўведзены новы від дапамогі - на дзяцей ад 3 да 18 гадоў у перыяд выхавання ў сям'і дзіцяці да 3 гадоў. Памер дапамогі складае 50% бюджэту пражытачнага мінімуму (БПМ) незалежна ад колькасці дзяцей, якія выхоўваюцца ў сям'і.

У сакавіку-красавіку бягучага года ў мясцовыя органы ўлады рэспублікі, паводле аператыўных даных, паступіла 1 тыс. 857 заяў на прызначэнне сямейнага капіталу. Вынесена 587 рашэнняў аб прызначэнні сямейнага капіталу і 1 адмову ў яго прызначэнні. Дэпазітныя рахункі ў Беларусбанку адкрыты 116 сем'ям на $ 1 млн 160 тыс.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Яшчэ да вынясення рашэння аб ліквідацыі трыкатажнай фабрыкі-банкрута “КІМ” адсюль звольніліся 120 чалавек, на продаж выставілі яе магазін і кафэ ў абласным цэнтры.

**Руба.** Першы віцэ-прэм’ер урада РБ В. Мацюшэўскі даручыў уладам вобласці дэталёва разабрацца з пытаннем зносу яшчэ 105 дач у зоне падтаплення ўзводзімай Віцебскай ГЭС.

**Талачын.** Мясцовы кансервавы завод зноў больш усіх у вобласці пасадзіў бульбы на плошчы 900 гектараў галандскай сялекцыі, летась тут атрымалі 34 тысячы тон клубняў.

**Віцебск.** Глава вобласці М. Шарстнёў правёў абласны семінар-нараду па павышэнні агульнай культуры земляробства і строгага захавання тэхналогій апрацоўкі глебы.

**Орша.** На будынку чыгуначнага каледжа ўстанавілі мемарыяльную дошку ў гонар выпускніка, Героя Савецкага Саюза, Леаніда Буткевіча, камандзіра ўзвода снайпераў.

**Віцебск.** Упершыню ў гісторыі раддома № 2 парадзіла з дапамогай кесарава сячэння сына віцяблянка ва ўзросце 54 гады, ёй дапамаглі зацяжарыць урачы адной з клінік Харкава.

**Новалукомль.** Да 3-х гадоў турмы пагражае жыхару горада за збіццё жыхара Магілёва, памылкова прызнанага ім за канкурэнта расклейшчыка аб’яў свайго сына.

**Віцебск.** Больш чым у 2 разы дзяржуніверсітэт імя П. Машэрава скараціў да 255 колькасць месц на платнай аснове навучання для першакурснікаў, зноў будзе набор на “Фізіку”.

**Лёзна.** Сталічная фірма “Лазер графікс” па надуманых прычынах адмовіла жыхару райцэнтра У. Сабалеву вырабіць па заказе шыльду на дом з надпісам “Жыве беларус”.

**Віцебск.** Падчас веснавога прызыву на тэрміновую ваенную службу прызвалі з розных куткоў вобласці звыш 1300 юнакоў, яшчэ 140 хлопцаў будуць служыць у рэзерве.

**Глыбокае.** На возеры “Чачалі” плошчай 53 гектары ў трэці раз правялі зарыбленне вадаёма, куды выпусцілі больш 50 тысяч малькоў шчупака з рыбгаса “Навінкі”.

**Наваполацк.** Мясцовы лячэбна-працоўны прафілакторый наведалі замежныя ўдзельнікі ІІ Міжнароднай канферэнцыі праваслаўнай і каталіцкай канфесій.

**Чашнікі.** У вёсцы Лукомль выратавальнікі з дапамогай рукавоў і вяровак дасталі з гнойнай ямы карову на пашы, адкуль яна ўжо не магла выбрацца, жывёліна не пацярпела.

**Докшыцы.** Родныя мясціны бацькі зноў наведаў фармацэўт з ЗША А. Гінзбург, сустрэўся з моладдзю ў кінаканцэртнай зале “Іскра”, пабываў на мемарыяле ахвяр нацызму.

**Паставы.** Каманда хлопчыкаў “ПМЦ” заняла 5-е места ў Брэсце на Спартакіядзе Саюзнай дзяржавы па футболе на турніры “Скураны мяч”, апярэдзіўшы яшчэ 7 клубаў аднагодкаў.

*Служба інфармацыі “ВГ”.*

# Прадавец магазіна ў Глыбоцкім раёне асуджаная за прысваенне грошай і таварна-матэрыяльных каштоўнасцей

**Судом Глыбоцкага раёна прадавец магазіна асуджаная на адбыванне пакарання ў выглядзе абмежавання волі без накіравання ў папраўчую ўстанову тэрмінам на тры гады з пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады і канфіскацыяй маёмасці. Прыгавор набыў законную моц.**

Як паведамляе ўпраўленне па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі УУС Віцебскага аблвыканкама, супрацоўнікі БЭЗ Глыбоцкага РАУС падчас аператыўнага абслугоўвання раённага спажывецкага таварыства атрымалі інфармацыю пра тое, што работнік аднаго з магазінаў перыядычна прысвойвае падсправаздачную выручку. У наступным было ўстаноўлена, што жанчына са жніўня 2013 года па лістапад 2014 года, працуючы на пасадзе прадаўца магазіна, падведамаснага райпа, прысвоіла наяўныя грашовыя сродкі і таварна-матэрыяльныя каштоўнасці таварыства на суму каля 60 млн. рублёў.

Па матэрыялах БЭЗ у дачыненні да прадаўца была распачатая крымінальная справа.

***Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.***

# Бяспека дзяцей – клопат дарослых!

■ **М.А. Цынковіч,** *старэйшы інспектар ДПС АДАІ Глыбоцкага РАУС, маёр міліцыі.*

**З 25 траўня па 5 чэрвеня на тэрыторыі раёна Дзяржаўтаінспекцыя праводзіць адмысловы комплекс мерапрыемстваў "Увага-дзеці!".**

"Бяспека дзяцей – клопат дарослых!" – пад такім дэвізам пройдзе Адзіны Дзень бяспекі дарожнага руху 29 траўня 2015 года на тэрыторыі ўсёй рэспублікі ў тым ліку і нашага раёна.

У гэты дзень праца Дзяржаўтаінспекцыі будзе накіраваная на прафілактыку дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму.




Паважаныя бацькі! У пазбяганне няшчасных выпадкаў, якія адбываюцца на нашых дарогах, будзьце самі дысцыплінаванымі і прывучайце да гэтага дзяцей. Кожны раз, калі Ваша дзіця выходзіць з дому, не паляніцеся нагадаць яму няхітрыя правілы паводзін на вуліцы! Памятайце, што нават адзін няслушны крок дзіцяці на праезнай частцы дарогі, можа прывесці да няшчасця.

**Паважаныя кіроўцы!** Ад Вас патрабуецца асаблівая асцярожнасць пры праездзе міма дзіцячых пляцовак, школ (у летні час у шматлікіх школах працуюць дзіцячыя аздараўленчыя лагеры), прыпынкаў грамадскага транспарту і ўчасткаў дарог, дзе абмежаваная бачнасць. Клопат аб дзецях – наша агульная справа.

Мы звяртаемся да Вас з просьбай: убачыўшы дзяцей, якія гуляюць на праезнай частцы дарогі ці каля яе, не заставайцеся абыякавымі, зрабіце дзецям заўвагу, і пракантралюйце, каб яны пакінулі праезную частку.

Кіроўцам з мэтай прыцягнення ўвагі дзяцей на рухомы транспартны сродак – **уключэнне блізкага святла фар.**

# З Брэста ў Будслаў адправіцца самая доўгая на Беларусі пілігрымка

**У Пінскай дыяцэзіі працягваецца запіс ў самую доўгую ў Беларусі пілігрымку Брэст-Баранавічы-Будслаў, якая пачнецца 18 чэрвеня. 25 чэрвеня да гэтай пілігрымкі далучацца Баранавічы.**

**За 16 дзён пілігрымы пройдуць каля 537 км.**

Урачыстасці ў Будславе ў 2015 годзе запланаваныя на 3-4 ліпеня і пройдуць пад дэвізам «Марыя - прытулак грэшных». Плануецца, што ў гэтым годзе пілігрымка Пінскай дыяцэзіі ў Будслаў стане нашмат даўжэйшай і пачнецца не з Баранавічаў, як звычайна, а з Брэсту. Такім чынам, яе ўдзельнікі пераадолеюць 537 кіламетраў і пройдуць найдаўжэйшым у Беларусі шляхам да Маці Божай Будслаўскай. Аднаўленне пілігрымкі стане асаблівым момантам у святкаванні 90-годдзя Пінскай дыяцэзіі.



# У нашых суседзяў – новы прэзідэнт!

***На прэзідэнцкіх выбарах у Польшчы перамог кансерватар Анджэй Дуда***

**Паводле exit poll, праведзеным TVN, у другім туры выбараў прэзідэнта Польшчы перамогу атрымаў кандыдат ад апазіцыйнай партыі «Закон і справядлівасць» 43-гадовы Анджэй Дуда — ён набраў 53%.**

Дзеючы прэзідэнт Браніслаў Камароўскі набірае 47%. Ён лічыўся незалежным кандыдатам, але прыхільным да кіроўнай «Грамадзянскай платформы».

Яўка на выбарах склала 56,1%. У першым туры, два тыдні таму, Дуда набраў 34,7%, Камароўскі — 33,7%. Трэцяе месца заняў рок-музыка Павел Кукіз (20%).

Першыя звесткі сёння меліся стаць вядомыя а 22-й, але абвяшчэнне вынікаў апытання было перанесена на 1,5 гадзіны з-за смерці 80-гадовай жанчыны на ўчастку ў мястэчку Кавале, дзе налічваецца 611 выбарцаў.

У Польшчы паўнамоцтвы прэзідэнта не такія шырокія, як, напрыклад, у Беларусі, але ён — галоўнакамандуючы войска, а таксама можа накладаць вета на шраг законаў.

Камароўскі (яму цяпер 62 гады) кіраваў краінай з 2010 года, пасля таго, як у авіякатастрофе загінуў прэзідэнт Лех Качыньскі, брат яго Яраслаў Качыньскі і кіруе партыяй «Закон і справядлівасць». Гэта партыя лічыцца больш кансерватыўнай, чым «Грамадзянская платформа». Але ў цэлым далейшы курс Польшчы не зменіцца.




Дуда, напрыклад, выступае супраць абортаў, аднаполых шлюбаў і ЭКА (экстракарпаральнае апладненне). Больш скептычна ставіцца да ЕС і выступае за павелічэнне дзяржаўнай падтрымкі менш забяспечаных слаёў насельніцтва. Дуда карыстаецца большай папулярнасцю ва ўсходніх раёнах Польшчы, напрыклад, на мяжы з Беларуссю ці Украінай.

Палітолагі таксама ацэньваюць выбары прэзідэнта, як рэпетыцыю перад выбарамі ў Сейм, што запланаваныя на восень. Цяпер у парламенце большасць мае Грамадзянская платформа.

***nn.by***

# Беларусь і ЕС - засталося ўзгадніць толькі некаторыя тэхнічныя моманты па спрашчэнні візавых працэдур

**Беларусі і Еўрасаюзу засталося ўзгадніць толькі некаторыя тэхнічныя моманты па спрашчэнні візавых працэдур. Аб гэтым паведаміў сёння начальнік галоўнага консульскага ўпраўлення Міністэрства замежных спраў Беларусі Ігар Фісенка ў час анлайн-канферэнцыі "Адпачынак за мяжой: як пазбегнуць праблем" на сайце БелТА.**

*"Перагаворы падыходзяць да завяршэння, але застаўся шэраг тэхнічных момантаў, якія маюць патрэбу ва ўзгадненні. Пакуль ніякіх часавых рамак я не ўстанаўліваў бы. Работа прадаўжаецца"*, – сказаў Ігар Фісенка.

Ён таксама растлумачыў, што размова ідзе менавіта аб спрашчэнні візавых працэдур. Прадугледжваюцца невялікае зніжэнне візавага збору, упарадкаванне пераліку дакументаў, неабходных для атрымання візы. *"Таксама гэта ўзаемная дамоўленасць, што пэўная колькасць віз для ўдзельнікаў розных абменаў, гуманітарных кантактаў і гэтак далей будзе выдавацца бясплатна"*, – сказаў Ігар Фісенка. Ён нагадаў, што з лістапада 2014 года паміж Беларуссю і ЕС адбылося тры раўнды кансультацый па праектах пагадненняў аб спрашчэнні візавых фармальнасцей і аб рэадмісіі. Бакі таксама праявілі канструктыўную работу па ўзгадненні дэкларацыі "Партнёрства дзеля мабільнасці", накіраванай на ўмацаванне ўзаемадзеяння ў міграцыйнай сферы.

*"Беларусь паслядоўна адстойвае ідэю прымянення з боку ЕС у разглядаемых дакументах па візавых пытаннях стандартных недыскрымінацыйных умоў, такіх жа, якія прымяняюцца Еўрасаюзам у адносінах да іншых дзяржаў – удзельніц "Усходняга партнёрства". Адначасова вядзецца работа па паглыбленні супрацоўніцтва з ЕС у галіне процідзеяння незаконнай міграцыі і эфектыўнага кіравання працоўнай міграцыяй. Гэтыя напрамкі вельмі важныя для нашай краіны, і мы зацікаўлены ў больш хуткім фарміраванні прававых інструментаў узаемадзеяння па гэтай тэматыцы"*, – дадаў прадстаўнік МЗС.

***БелТА.***

# Дзеці вайны – новыя сведкі Халакосту ў Шаркоўшчынскім раёне




Людміла Ардынская. *Фота Зм. Бартосіка*

**У лістападзе мінулага года ў "Вольным Глыбокім" быў надрукаваны мой артыкул "Крывавае поле" аб жудаснай трагедыі, якая адбылася ўлетку 1942 года з вязнямі Шаркоўшчынскага гета. Пасля масавага расстрэлу ў Шаркоўшчыне людзі, імкнучыся ўратавацца, пачалі ўцякаць з гета ў розных напрамках у бок лясоў. На іх шляху было мноства хутароў. Уцекачы невялікімі групамі знаходзілі часовы прытулак у гаспадароў, якія прыносілі няшчасным ежу, вопратку. Але заставацца доўгі час было небяспечна, у любы момант у тым жа свірне, гумне ці асеці ўцекачоў маглі знайсці паліцаі, немцы – і тады ўсіх чакаў расстрэл.**

■ **Людміла Ардынская**, *в. Радзюкі*

Так і адбылося. На тэрыторыі цяперашняга Радзюкоўскага сельсавета паміж Шаркоўшчынай і вёскай Радзюкі (у той час Радзюкоў, акрамя двара шляхціча Бароўскага на беразе ракі Бярозаўкі і двара збяднелага шляхціча Багуцкага ў Зялёнай Лонцы на беразе ракі Гнілухі, не было) на хутарах немцы расстралялі яўрэяў з гета. Частку – каля хутара Шоўдрыхі, значна большую колькасць – каля хутара Малонка на беразе ракі Гнілухі. Там у вялікай яме ахвяры былі пахаваныя.

З маёй дапамогай журналісты "Вольнага Глыбокага" Зміцер Лупач і Леанід Юрык правялі журналісцкае расследаванне. Апыталі старэйшых жыхароў в. Радзюкі Аліну Страленка, Івана Лазовіка, Вітольда Касцюкевіча і іншых, якія ў той час былі дзецьмі вайны, але памятаюць гэтыя падзеі. Месца пахавання вязняў гета паказала і распавяла аб жудаснай трагедыі дачка гаспадароў хутара Малонка Ліліяна Карачун.

Прадстаўнікі Рэспубліканскага фонду Халакоста, куды мы звярнуліся аб ушанаванні памяці ахвяраў генацыду яўрэйскага насельніцтва ў гады вайны, абнадзеілі, што на іх запыт патрэбная дакументацыя рыхтуецца ў вобласці і раёне, і помнік вязням Шаркоўшчынскага гета будзе ўсталяваны на месцы пахавання. Будзем спадзявацца, што неўзабаве.

Адразу пасля напісання артыкула "Крывавае поле" людзі, таксама дзеці вайны, бо тыя, хто капаў гэтыя ямы для пахавання і звозіў у іх ахвяры, ужо сышлі з жыцця, адгукнуліся на прачытанае. Сярод іх – дзве жанчыны, ураджэнкі Шаркоўшчынскага раёна: Марыя Канстанцінаўна Кліманові і Часлава Пятроўна Кондраш. Першая жыве ў в. Мосар Глыбоцкага раёна, другая – у г.п. Шаркоўшчына. Напэўна, вязням гета ўдалося дайсці да вёскі Жоўніца, пасля вайны цэнтра самай аддаленай брыгады былога саўгаса імя Маркава, чые землі знаходзяцца на мяжы з Пастаўскім і Глыбоцкім раёнамі. З гэтымі жанчынамі я пазнаёмілася праз настаўніцу Удзелаўскай школы Лілію Рышардаўну Брэхун. Яна з вучнямі займаецца вывучэннем гісторыі роднага краю, пошукамі сведак падзеяў Вялікай Айчыннай вайны.



Ліліяна Карачун распавядае пра яўрэйскае пахаванне. *Фота Зм. Лупача*

Марыя Канстанцінаўна і Часлава Пятроўна, нягледзячы на свой шаноўны ўзрост, надзвычай добразычлівыя і прыемныя, ахвотна падзяліліся сваімі ўспамінамі. Як сапраўдныя вернікі (Часлава Пятроўна яшчэ спявае ў касцёле) яны непакоіцца аб тым, што ў забыцці засталіся месцы пахавання расстраляных вязняў. Сын Марыі – каталіцкі святар у Мінску.

– Хоць бы хто са святароў іхніх з сінагогі памаліўся, людзі ўсё ж, - кажа Часлава Пятроўна і дадае: – Звярталася я ў Полацкую яўрэйскую абшчыну, прыязджаў чалавек колькі часу таму, паслухаў мой расповед, больш не з'явіўся.

Вакол вёскі Жоўніца, якая разбудавалася пасля вайны, а цяпер вымірае (там засталося некалькі хат), у даваенны час размяшчаліся хутары Юзіха, Бараніха, Арцыбіна, Петрунова, Груздавое. Уцекачы з гета хаваліся ў гаспадароў.

Марыя Канстанцінаўна, якой у той час было гадоў дзевяць, памятае, як бацька ўпотай насіў ежу ў пуню галодным і аслабелым людзям. Жанчына расказвае, што сяляне сябравалі з яўрэямі: у мястэчку прыходзілася звяртацца да яўрэяў-краўцоў, крамнікаў, лекараў, аптэкараў.

Марыя Кліманові і Часлава Кондраш паміж сабой у роднасных адносінах. Як расстрэльвалі вязняў, яны не бачылі. Але, як звозілі ахвяраў да месца пахавання каля хутара Груздавое, назіралі.

Марыя Канстанцінаўна сведчыць, што пад наглядам паліцая да выкапаных ям трупы звозілі на падводах Свілёнак і Несцяровіч (іх прозвішчы запомніліся, мабыць, з успамінаў бацькоў). Асабліва ўразіла яе жудаснае відовішча, якое і дагэтуль у памяці і ў сэрцы.

– З панарада, поўнасцю загружанага трупамі, я ўбачыла, як звешвалася галоўка забітай дзяўчынкі: прыгожы тварык, а чорныя кучаравыя валоскі развіваліся на вятры.

Часлава Пятроўна жыла бліжэй да месца пахавання ахвяраў. Схаваўшыся ў кустах яна з сястрычкай сачылі, як трупы скідвалі ў дзве ямы: у адну – дзевятнаццаць чалавек, у другую – сем.



**Тое самае «крывавае поле». Шаркоўшчынскія раённыя ўлады запэўніваюць, што сёлета тут будзе ўсталяваны памятны знак.** *Фота Зм. Лупача*

– Каб хто мяне туды давёз, я памятаю тое месца, я паказала б, але можа й дарога зарасла.

У касцёле, пабачыўшы знаёмых з тых мясцінаў і параіўшыся з імі, Часлава Пятроўна патэлефанавала лесніку Чаславу Буку, які родам адтуль. Вось што ён расказаў:

– З Жоўніцы да месца пахавання ахвяраў не праедзеш, дарога вельмі парэзаная трактарамі. Верны напрамак ад Ружамполля на Лабуці, далей праз мост рэчкі (яе называюць там капанкай – штучнае русла), далей пехатой з паўкіламетра, але трэба касу браць (смяецца) – усё зарасло, трава высокая, у рост чалавека, сухая. Відаць бугарочкі, у дзяцінстве, памятаю, расказвалі пра гэта.

Хутчэй за ўсё, туды ніхто не паедзе. А колькі яшчэ такіх пахаванняў на нашай зямлі, дзе ніколі не будуць стаяць нават самыя звычайныя помнікі! Хочацца сказаць шчыры дзякуй і ўдзелаўскай настаўніцы Брэхун Л.Р., і нашым зямлячкам цудоўным простым жанчынам Кліманові М.К. і Кондраш Ч.П. за неабыякавасць, за памяць іх сэрцаў аб тых, хто хацеў жыць, чыё жыццё раптам абарвалася. Мы, грамадзяне сваёй краіны, павінны не стаяць у баку ад таго, што можна зрабіць сёння, каб перадаць гістарычную памяць нашчадкам у дзень заўтрашні.

## Халакост

***(Аб генацыдзе яўрэйскага насельніцтва ў Шаркоўшчынскім раёне)***

Балючае ёсць слова Халакост.
Яўрэяў у масавых расстрэлах, праследах
Знішчэнне тымі, хто прыйшоў "nach Ost",
Людзей знікненне азначае ён са свету.
Страшэнны лёс народ той напаткаў,
Што сорак год вадзіў прарок у пустыні.
Гасподзь людзям нябесны манны даў,
Каб выжыць. Лёс нашчадкаў быў загінуць.
Зганялі іх у гета ў гарадах
І газам у камерах удушалі і труцілі.
Палілі ў крэматорыях – пячах
І катавалі, голадам марылі.
Фашысты летам пачалі знішчаць
Народ яўрэйскі ў гета Шаркаўшчынскім.
Ахвяры ў помніку каля Дзісны стаяць,
Жывуць, пакуль ёсць памяць і ўспаміны.
Жывуць у краі й сведкі тых падзей –
У многіх сем'ях уцекачоў хавалі.
І чулі енкі, стогны тых людзей,
І бачылі, у няшчасных, як стралялі.
Адзінкі ўратавацца з іх змаглі.
Знаходзілі, што ў лесе паміралі.
І кажуць, трупы па Дзвіне плылі,
Чырвоныя ў бераг білі хвалі.
Аб Шоўдрынах і Груздавым, аб Радзюках
У народзе ходзяць чуткі-успаміны.
Адтуль ахвяры йшлі ў апошні шлях,
Там лёс адлічваў ім апошнія хвіліны.
І кажуць сведкі, што душа баліць,
І сэрца ўспаміны ўсё трывожаць.
У памяці людской ахвярам жыць,
Яна ўсе злачынствы пераможа.

*Людміла Ардынская,*
*травень 2015 г.*

# З надыходам лета парушэнняў становіцца больш



**Застаюцца лічаныя дні да наступлення лета, здымуцца абмежаванні і забароны на прамысловае і аматарскае рыбалоўства. Для аматараў рыбалкі з лодак паведамляем, што з 9 чэрвеня на тэрыторыі Віцебскай вобласці дазволена лоўля рыбы з плаўсродкаў, а таксама перамяшчэнне на маламерных судах па вадзе. Усе плаўсродкі павінны быць абавязкова зарэгістраваныя і прайшоўшыя тэхагляд.**

■ **Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету*

Згодна з пунктам 99 Правіл вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства ў Рэспубліцы Беларусь у рыбалоўных угоддзях дазваляецца аматарскае рыбалоўства ўсіх відаў рыбы, за выключэннем вугра і відаў рыбы, у дачыненні да якіх у адпаведнасці з заканадаўствам устаноўлены абмежаванні і забароны.

У выпадку вылоўлівання рыбы, ракаў або міногаў, якія адносяцца да відаў, уключаных у Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь, а таксама вугра, такая рыба павінна быць выпушчана ў рыбалоўныя ўгоддзі ў жывым выглядзе. За незаконны вылаў рыб уключаных у Чырвоную кнігу прадугледжана адміністрацыйная адказнасць (штраф да 50 базавых велічынь) і крымінальная адказнасць (да 6 гадоў пазбаўлення волі).

Пры аматарскім рыбалоўстве дазваляецца вылаў рыбы, якая не дасягнула прамысловай меры, па норме не больш за 20 працэнтаў ад колькасці вылаўленай рыбы кожнага з відаў, для якога ўстаноўлена прамысловая мера.

Так, прамысловая мера на:

■ шчупака складае 40 см (вымяраецца ад галавы да пачатку хваста);
■ ліня – 22 см;
■ язя – 25 см;
■ жэраха - 34 см;
■ судака – 40 см;
■ сама – 70 см;
■ галаўня – 25 см;
■ мянтуза – 36 см.

Рыбаловам дазваляецца выкарыстоўваць для аматарскага рыбалоўства нахлыстовыя, паплавочныя і донныя вуды ўсіх сістэм, спінінгі, кружкі, дарожкі, жэрліцы, стрэльбы і пісталеты для падводнага палявання, падхватнікі і пад'ёмныя сеткі для лоўлі рыбы, якая выкарыстоўваецца ў якасці прынады (дыяметр сачка 0,5 метра з ячэйкай менш за 10 міліметраў ці пад'ёмную сетку памерам 1х1 метр і ячэйкай менш за 1мм).

На аднаго рыбалова ў суткі допускаецца вылаў не больш за 5 кг рыбы, або аднoй рыбы, вага якой перавышае 5 кг.

**На лоўлю асобных відаў рыбы усталёўваюцца забароны:**

**- сом звычайны: з 31 траўня па 1 ліпеня, з 1 лістапада па 31 сакавіка**

Асноўныя забароны пры аматарскім рыбалоўстве:

■ стаянка механічных транспартных сродкаў у межах прыбярэжных палос вадаёмаў да 30 метраў ад берагавой лініі;
■ мыйка транспартных і іншых тэхнічных сродкаў у межах водаахоўных зон вадаёмаў;
■ усталёўванне ў межах водаахоўных зон летніх лагераў для сельскагаспадарчых жывёл, сховішчаў для складавання ўгнаенняў і сродкаў аховы раслін;
■ падводнае паляванне рыбаловам, якія не маюць пры сабе пасведчання падводнага паляўнічага і членскага білета БТПР, з выкарыстаннем аквалангаў і іншых аўтаномных дыхальных прыбораў;
■ знаходжанне ў рыбалоўных угоддзях або на прылеглай да іх тэрыторыі на адлегласці да 1 км ад берагавой лініі рыбалоўных угоддзяў з забароненымі прыладамі рыбалоўства ці рыбай, лоўля якой у дадзеным раёне і ў дадзены час забаронена альбо вага якой перавышае нормы вылаву, без дакументаў, якія пацвярджаюць законнасць валодання рыбай.

З надыходам цяпла рэзка павялічылася колькасць парушэнняў правіл рыбалоўства, мыйка аўтамашын каля вадаёмаў, стаянкі бліжэй за 30 метраў ад берагавой лініі, здабыча рыбы забароненымі прыладамі рыбалоўства.

**Аб усіх фактах браканьерства просім Вас паведамляць у Глыбоцкую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і раслiннага свету па тэлефонах: 8-02156- 2-86-70 або 2-80-30, мабільныя 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49 МТС.**




## Падзяка дзіцячаму садку №6

**Паважаная Паліна Віктараўна Барысёнак, Наталля Іванаўна Хаткевіч, Зоя Аляксандраўна Зелянкевіч!**

Дзякуй Вам за тое, што ўсе гэтыя гады Вы былі побач з нашымі дзецьмі. Дзякуй Вам за тое, што ўсе гэтыя гады Вы дапамагалі нам выхоўваць нашых дзяцей, вучыць іх жыццю. Мы ад усяго сэрца дзякуем Вам за вашу не лёгкую, але такую патрэбную для мільёнаў людзей працу. Мы ніколі не забудзем Вас, Вашы старанні і Ваш клопат пра нашых дзяцей. Дзякуй Вам за ўсё, з Вамі было так выдатна ўсе гэтыя гады.

Мы хотим слова признанья
Воспитателям сказать.
За труд тяжкий, за старанья,
Всем вам должное воздать.
Деток наших вы учили,
Не жалеючи себя.
Сердце, душу в них вложили,
Наставляли их, любя.
Окружали их заботой.
Были как родная мать.
За великую работу
Вам хотим мы пожелать,
Чтобы сбыться всем мечтам,
Времени на все хватало,
Крепкого здоровья вам,
Чтоб душа не уставала.
Никогда не унывать,
Интересных вам ребяток,
И, конечно, пожелать
Всем высокую зарплату!

*З найлепшымі пажаданнямі*
*Кукар Максімка і яго сям'я*

# Часта ездзіш за мяжу – рыхтуйся да візіту ў падаткавую



**Падатковая інспекцыя праверыць усіх мінчукоў, якія часта ездзяць за мяжу. МПЗ хвалюе замежны шопінг беларусаў.**

Пра гэта на прэс-канферэнцыі паведаміла намесніца начальніка інспекцыі Міністэрства падаткаў і збораў Рэспублікі Беларусь у Мінску Галіна Гурыновіч, піша агенцтва «Мінск-навіны».

За першыя чатыры месяцы года сталічныя падаткавікі паспелі папрасіць дэкларацыю аб падатках і маёмасці ў 1,5 тысячы мінчукоў. Правяраць будуць усіх, хто часта ездзіць за мяжу на закупы.

– Мы працуем тут у пэўных кірунках. Першую катэгорыю складаюць грамадзяне, якія сістэматычна перасякаюць Дзяржаўную мяжу Рэспублікі Беларусь і ўвозяць на тэрыторыю нашай краіны тавары і іншую маёмасць, – патлумачыла Гурыновіч. – Другая – гэта непрацуючыя грамадзяне, якія атрымліваюць нязначныя даходы, але якія зрабілі дарагія набыцці. Трэцяя катэгорыя – гэта асобы, якія атрымалі даходы ў выглядзе пазык і крэдытаў і дэкларуюць іх у якасці крыніц сваіх выдаткаў. Заўсёды ў полі зроку падатковай інспекцыі былі грамадзяне, якія маюць буйныя выдаткі, якія набываюць кватэры, дамы падвышанай камфортнасці, зямельныя надзелы, транспартныя сродкі. У гэтым годзе мы зацікавіліся фізічнымі асобамі, якія маюць ва ўласнасці ў Мінску нежылыя памяшканні, – такіх грамадзян амаль 500, а таксама тымі, хто мае ва ўласнасці больш за 4 кватэры. Выяўленыя 26 такіх мінчукоў.

Акрамя таго, падатковую службу цікавіць інфармацыя аб грамадзянах, якія зрабілі стоадсоткавую аплату за жылыя памяшканні, размешчаныя ў жылых комплексах падвышанай камфортнасці - «Аквамарын», «Парк-сіці», «Ізумрудны», «Вівальдзі», «Вівальдзі-2», «Чайкоўскі», «Ветразь», а таксама набылі ва ўласнасць нерухомасць коштам звыш 1 млрд рублёў і аўтамабілі коштам звыш 500 млн рублёў.

Нагадаем, у 2013 годзе Лукашэнка выступіў з ініцыятывай абкласці беларусаў, якія едуць на шопінг за мяжу, зборам у 100 долараў.



# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»



## ПАНЯДЗЕЛАК, 1 чэрвеня



**06.00** Доброе утро, Беларусь!
**07.00** Новости.
**07.05** Новости экономики.
**07.10** Зона Х.
**07.20** Доброе утро, Беларусь!
**08.00** Новости.
**08.05** Новости экономики.
**08.10** Зона Х.
**08.15** Доброе утро, Беларусь!
**08.45** Выпускныя экзамены па беларускай і рускай мовах, па матэматыцы за перыяд навучання і выхавання на ІІІ ступені агульнай сярэдняй адукацыі
**09.00** Новости.
**09.10** Главный эфир.
**10.05** **«Идеальный брак»** (Россия).
**11.00** 90 секунд.
**11.05** **«Москва-Лопушки»**
**12.00** Новости.
**13.00** 90 секунд.
**13.05** **«Лучшее лето нашей жизни»** (Россия). 1-я и 2-я серии.
**15.00** Новости.
**15.15** Новости региона.
**15.25** **«Лучшее лето нашей жизни»**. 3-я и 4-я серии.
**16.00** 90 секунд.
**17.35** Белорусское времечко.
**18.40** Новости региона.
**19.00** Новости.
**19.20** Арена.
**19.40** Зона Х.
**20.00** **«Идеальный брак»** (Россия).
**21.00** Панорама.
**21.45** Форум
**22.45** **«След»**
**00.20** Зона Х.
**00.40** Новости.
**00.55** День спорта.



**06.00**, **08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Фазенда».
**11.55** «Модный приговор».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Мужское/Женское».
**14.10** «Наедине со всеми».
**15.05** «Время покажет».
**16.00** Наши новости.
**16.15** Новости спорта.
**16.20** «Время покажет».
**16.50** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет.«Республика «Павлово». Крестьянская утопия». Фильм 1
**19.00** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «Дело принципа».
**22.15** «Танцуй!».
**00.50** «Вечерний Ургант».
**01.25** Ночные новости.



**07.00** Телеутро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Иронический детектив **«Метод Фрейда 2»** (Россия).
**10.10** Телебарометр.
**10.35** «Понять и обезвредить».
**11.10** Анимационный фильм **«Сезон охоты-2»** (США).
**12.40** Остросюжетный сериал **«Танцы марионеток»** Россия . 1-я - 4-я серии.
**16.40** Иронический детектив **«Метод Фрейда 2»** (Россия).
**17.55** Детективно-приключенческий сериал **«Смерть в раю»** (Великобритания, Франция).
**18.55** Комедийный сериал **«Универ. Новая общага»** (Россия).
**20.00** Мелодраматический сериал **«Не родись красивой»**
**21.00** Реальный мир.
**21.30** Телебарометр.
**21.35** КЕНО.
**21.40** «Экстрасенсы детективы» (Украина). 1-й выпуск.
**22.45** **«Кости»** (США).
**23.35** **«Как я встретил вашу маму»** (США).
**00.05** Мистический сериал-фэнтези **«Быть человеком»** Великобритания.
**01.05**«**Смерть в раю»** Великобритания Франция).



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя».
**09.25** «Большой завтрак»
**10.05** «Дальние родственники».
**10.30** «24 часа».
**10.40** **«Солдаты 5».** Сериал.
**11.35** «Семейные драмы».
**12.30** «Не ври мне!».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Наше дело».
**14.00** «Любовь 911».
**14.55** «Легенды СССР». «Наше счастливое детство».
**15.55** «Другая страна». «Доброе утро, Вьетнам!».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Большой город».
**17.25** «Минщина».
**17.35** «Званый ужин».
**18.35** «Документальный проект»: «Солнце».
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Военная тайна с Игорем Прокопенко».
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Неделя спорта».
**23.30** **«Квартет»**



**07.00** «Джон Кенэдзі. Невядомы прэзідэнт», д/ф
**07.55** **«Mad Men. Утрапёныя IV»**, серыял
**08.40** ПраСвет
**09.20** «Хадаркоўскі», д/ф
**11.15** «Білорус», д/ф
**11.55** Гісторыя пад знакам Пагоні
**12.05** Кінаклуб. «Жыццё тай іншай»
**12.20** **«Жыццё тай іншай»**, м/ф
**16.00** **«Mad Men. Утрапёныя IV»**, серыял
**16.45** «Хадаркоўскі», д/ф
**18.40** Эксперт
**19.05** Назад у будучыню
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні
**19.25** «Катынь. Праз 70 гадоў», д/ф
**20.00** Студыя «Белсат»
**21.00** Аб'ектыў
**21.25** 54 %
**21.45** «Джон Кенэдзі. Невядомы прэзідэнт», д/ф
**22.45** Кінаклуб. «Жыццё тай іншай»
**22.55** **«Жыццё тай іншай»**, м/ф
**00.35** Студыя «Белсат»

